**Нагорны А.Р.**, На хвалях дзяцінства: казкі, гісторыі, вершы.
Аўтарэдактура. — Мінск, 2012.

*Малюнак вокладкі* — **Аляксандр Бельскі** (www.belsky.by)



У зборнік увайшло па пяць празаічных і вершаваных твораў праваслаўнага аўтара, прызначаных для чытання дзецям. Разлічана на самы розны ўзрост. Напрыклад, Умывайкай, Лятайкай і лічылкамі дарослыя, нібы своеасаблівай гульнёй, могуць цешыць ужо ***не***маўля, развіваючы пасіўнае маўленне. Прозу слушна (хаця і не абавязкова) чытаць дзецям ад 3 год. А казка "Вучоны Крот" будзе цікавай і дарослым, калі яны ўбачаць у ёй прыпавесць.

Электронная кніжка падрыхтавана як падарунак дзецям і бацькам
да Дня абароны дзяцей ў 2012 годзе.

# Змест

**Проза** ........ 2
Вучоны Крот ........ 2
Свечка (хрысціянская казка) ........ 4
Чароўны посуд (казка) ........ 7
Лютаўскі Сумёт ........ 10
Шпакоўня ........ 12
**Вершы** ........ 14
Ранішняя лічылка ........ 14
Вячэрняя лічылка ........ 15
"Умывайка" ........ 16
"Лятайка" ........ 17
Дзяцінства ........ 18

# Проза

## Вучоны Крот



Спадар Крот быў дамаседам, аднак меў больш за сто сяброў і знаёмых. Кожны дзень ён гадзінамі наведваўся ў госці то да аднаго, то да другога, не пакідаючы фатэля, бо кампутар у яго сутарэнні (а ты ж ведаеш, што краты жывуць у падземных скляпах), быў далучаны да інтэрнэту.

Толькі ніводнаму віртуальнаму знаёмаму не быў так рады спадар Крот, як спадарыні Палявой Мышы, якая завітвала да яго раз на тыдзень. Сапраўды, ніякі інтэрнэт-сябра не пачастуе духмянай гарбатай з самымі смачнымі ў свеце пампушкамі (зразумела, акрамя тых, якія гатуе твая маці). І нават самыя анімаваныя “смайлікі” не здольныя перадаць асалоды ад жывой гутаркі “вочы ў вочы” з прыемным суразмоўцам.

Вось і сёння духмяныя аблокі пару лунаюць над кубачкамі гарбаты. Са стала просяцца ў рот пампушкі з сочывам і шакаладныя цукеркі. А спадар Крот і спадарыня Мыш, утульна прыладзіўшыся насупраць каміна, вядуць гутарку:

— Не-не, шаноўная спадарыня, не ўцягвайце мяне ў гэтыя авантуры! Мне, вучонаму крату, захавальніку самай навуковай бібліятэкі на нашых землях, — тут Крот махнуў ў бок пыльных кніжных коркаў на паліцах, размешчаных уздоўж сцяны, — проста непрыстойна браць удзел у забабонах!

— Шкада, дарагі сябра, у мінулую нядзелю мы з вашай сястрычкай добра палашчыліся на сонечным прыгрэве, — адказала Мыш.

— Пры ўсёй павазе, спадарыня, — узяў павучальны тон гаспадар самай навуковай бібліятэкі, — як вучоны я павінен заўважыць, што Сонца не існуе: гэта навуковы факт. А той, хто распаўсюджвае пра яго байкі ці ашуканец, ці даверлівая ахвяра, ці проста вар'ят. Вось гэтыя апетытныя пампушкі, прыгатаваныя Вамі, безумоўна існуюць, бо іх смак дагэтуль цешыць мой язык. А Сонца я ніколі не трымаў у руках і не сустракаў у сутонні сваіх тунэляў. Усё, што існуе павінна сябе неяк выяўляць. А Сонца не завітвала да мяне ў госці ні праз Інтэрнэт, ні праз дзверы.

— Вы маглі б і самі, спадар Крот, наведацца да Сонейка, падняўшыся на паверхню зямлі. Тады, магчыма, і Вы адчулі б, як Яно лашчыць бакі на прыгрэве.

— Вось яшчэ! — абурыўся Крот. — Дзе гэта Вы бачылі, каб такі сур'ёзны навуковец як я даверліва цягнуўся ўслед зманлівых баек! Вох, любасная сяброўка, мне шкада Вас. Я разумею, што міф пра існаванне цёплага Сонейка суцішае Вас у гэтым змрочным і халодным свеце. Але, баюся, вы трапілі ў пастку самападману: святло і цеплыня, якія лашчаць Вас на прыгрэве — гэта толькі плады фантазій: востры га-лю-цы-натарны сін-дром, кажучы навукова!

— Вы бы думалі інакш, калі б бачылі, як залатыя пальцы сонечных промняў адаграваюць сваёй пяшчотай азяблую ў зімовай спячцы зямлю, як яна скідвае з сябе срэбныя шубы снягоў і расквітае зорачкамі пралескаў.

— Упэўнены, мая мілая працячка, што змене пораў года можна знайсці іншае тлумачэнне, без усялякіх там "сонечных пальцаў". Падумайце сама: калі б у небе насамрэч красавалася цёплае і пяшчотнае Сонейка, як тады магла б існаваць халодная і суровая зіма?! Не, сяброўка, мне не трэба марнаваць час, поўзаючы па паверхні зямлі, каб ведаць, што Сонца — гэта толькі міф. У маіх кнігах дастаткова навуковых доказаў гэтаму.

Спадарыня Палявая Мыш не знайшлася што адказаць навукоўцу Крату, бо сама яна навукамі не займалася, і ў яе бібліятэцы захоўваліся толькі кулінарныя кнігі.

Яна ветліва падзякавала суседу за прыемную кампанію і абяцала прынесці наступным разам яшчэ больш духмяныя травы і яшчэ больш смачныя пампушкі. Сумленна кажучы, Мышы не хацелася развітвацца з такой утульнай норкай і кветкавым водарам, прытоеным у аблачыне пара над кубачкам гарбаты, аднак, яна абяцала пляменніцам, што зводзіць іх на прыгрэў, каб аблашчыць бакі Сонейкам, якога не існуе…

А вучоны Крот, са шкадаваннем развітаўшыся з працячкай-суседкай, плюхнуўся ў глыбокае скуранoе крэсла і пагрузіўся ў чытанне таўшчэзнай навуковай кніжкі. І меў рацыю, бо аўтар кніжкі не марнаваў час поўзаннем па нейкіх там "прыгрэвах", а ўсё жыццё невылазна правёў у сваім сутарэнні, займаючыся навуковым спасціжэннем свету.

# Свечка (хрысціянская казка)



З табой калі-небудзь здараліся дзівосныя прыгоды? А з маім сябрам, пяцігадовым Мікітам, аднойчы здарылася нешта незвычайнае. І я яму веру, бо Мікіта добры хлопчык, а добрыя хлопчыкі ніколі не падманваюць. Ну, хіба толькі, трохі падхарошаць.

Усё пачалося са смерці мамы. Хлопчык вельмі смуткаваў па яе руках, якія саграваліў пяшчотных абдымках, па яе ласкавым позірку і па салодкім пацалунку на ноч. А як яму не хапала перад сном яе чароўных казак і ціхіх калыханак!

А тут яшчэ адна бяда: у хлопчыка не было таты, і таму дарослыя вырашылі аддаць яго ў дзіцячы дом. Вы толькі ўявіце сабе: Мікіце прыйшлося б развітацца з тым самым ложачкам, у які ўкладала яго кожны вечар мама! Гэтага ён вытрымаць не мог і папросту збег з хаты.

Трэба сказаць, што справа адбывалася ў вёсцы. А на ўскраіне яе, трошкі збочыўшы з дарогі, спынілася ў задуменні старая драўляная цэркаўка, якую матуля з Мікітай часам наведвалі. Святар прыязджаў сюды рэдка (бо служыў ён адзін на некалькі прыходаў), таму і на той раз царква аказалася пустая.

Схаваўся Мікіта за “свечную скрыню”, прытоіўся са сваімі невясёлымі думкамі і сам не заўважыў як заснуў. Адпачываць, аднак, яму доўга не давялося. Чуе хлопчык: рыпіць старая падлога ў храме, нібыта ходзіць хто. Забіўся Мікіта яшчэ больш у кут — баіцца, што знойдуць. А сам яшчэ пільней прыслухоўваецца. І раптам зразумеў ён, што нікога ў храме няма, а падлога тая не рыпіць, а бурчыць пра нешта:

– Вох-вох-вох, як цяжка мне даецца быць самай блізкай да нашага любага Спадара і Творцы Боaccess Божанькі! Кожны па мне ходзіць, кожны мяне шарпае — ажно

рыпяць-баляць мае яловыя рабрынкі! Чаго толькі не выношу, каб быць бліжэй да любаснага нашага Спадара. Затое за такія смірэнныя подзвігі любіць мяне Божанька больш за ўсіх!

– Не перабольшвай, сястрычка, — туркнуў драўляны аналой. — Я помню цябе яшчэ маладой — месцамі згарбацелай і шурпатай. А цяпер глядзі, якая ты стала роўная ды гладзенькая, ажно бліскацiш. А ўсе таму, што так шмат па табе хадзілі-гладзілі, рэбры-дылёўкі нагамі стоптвалі-выраўноўвалі, падганялі адну да другой. Не выхваляцца такімі "подзвіагамі" трэба, а яшчэ падзякаваць людзям за дапамогу!

Іншая справа я. У звычайнай хаце вы аналояў не пабачыце, значыць, зроблены я з адмысловым прызначэннем: памагаць у царкве багамольцам любаму Спадару нашаму служыць. Атрымліваецца, любіць мяне Спадар асаблівай любоўю, раз даў мне такое адмысловае і адказнае даручэнне!

– Такімі смешнымі вы падаяцеся зверху! І разважаеце вы смешна! — паблажліва заўважыў высокі купал. — Каго больш любяць, таго трымаюць бліжэй да сябе. А хто бліжэй да генерала: салдат ці афіцэр? Хто чынам вышэй, той да ваяводы бліжэй! Не дарма мяне паставілі над усімі вамі. Вышэй за мяне няма нікога, акрамя Самога Госпада Бога! Вось і крыж Ягоны прыладзілі мне на капялюш, напамінам, што любы наш Спадар Божанька хоць і не бачны, а заўжды побач са мной.

"І над магілай мамы такі крыж паставілі", — успомніў Мікіта, аднак уголас нічога не сказаў, бо пабаяўся спудзіць суразмоўцаў.

– Ці не так, пані Свечка? — чакаючы падтрымкі запытаў Купал.

Толькі цяпер Мікіта заўважыў, што на падсвечніку за аналоям, які прыгажэў пасярод храма, гарэла васковая свечка. І адкуль яна толькі ўзялася?

Свечка, аднак, нічога не адказала. Магчыма яна і не пачула пытання, бо ёй было некалі спрачацца пра тое, хто бліжэй да любімага Бацькі ўсіх Спадара Бога. Ужо вечарэла. У храм пракралася змрочная цемра і прахалода. І свечцы прыходзілася змагацца з імі, аддаючы святло і цяпло.

Мікіце надакучыла хавацца, і ён падышоў да падсвечніка. Ад свечкі пацягнула цяплом і ў яго бок. Хлопчыку чамусьці ўзгадалася любоў ягонай маці: як прыемна было адаграваацца ў яе абдымках, і якім ласкавым святлом ззялі яе вочы, калі яна нахілялася над ложкам, каб падарыць салодкі пацалунак на ноч… А пакуль ён аддаваўся ўспамінам, свечка зусім растаяла, аддаўшы без астачы цеплыню сваёй светлай душы таму нябачнаму свету, дзе жыве любасны Бацька ўсіх і Спадар Божанька.

– Вось хітруга! — не вытрымаў такога нахабства Купал. — Пакуль мы тут высвятлялі, хто самы любімы, яна ўзяла і збегла ад нас у ласкавыя абдымкі Спадара Бога! Гэта парушае ўсякую субардынацыю, бо вышэй за мяне тут нікога няма!

Мікіта не ведаў чым ёсць "субардынацыя", аднак ён зразумеў, што калі нават душа свечкі трапіла ў ласкавыя абдымкі Спадара Бога, то маці тым больш заслужыла Ягоную любоў. Бо матуля аддала Мікіце столькі святла і цяпла сваёй любові, колькі хапіла бы і на цэлы вагон свечак.

Хлопчык папрасіў літасцівага Спадара Бога паклапаціцца пра маці ў нябачным Свеце. А маці папрасіў не сумаваць пра яго.

Павесялеўшы, Мікіта вярнуўся дадому, бо цяпер ведаў, што дзе б ён ні знаходзіўся, маці будзе глядзець на яго з нябачнага Свету і перажываць, каб сын не сумаваў і рос харошым.

Вось такую гісторыю распавёў мне пяцігадовы Мікіта. І я яму веру, бо Мікіта харошы хлопчык, а харошы хлопчык не стане падманваць.

# Чароўны посуд (казка)



Многія думаюць, што магія знікла, калі з разваліласяТрыдзевятае царства, а яго асілкі і драконы, чарадзеі і казачныя істоты засталіся на прачытаных старонках Кнігі часу. Аднак маленькая Яна цяпер ведае, што гэта не так. Бо менавіта праз магію дзяўчынка адолела адзіноту і набыла сяброўак. Магчыма, яе гісторыя і цябе навучыць трохі чарадзейству.

Будзе слушна пачаць гэты аповяд з таго, што Яне пашчасціла з бацькамі. Яны любілі дачку і песцілі яе часам даволі дарагімі цацкамі. Я б табе падрабязна распавёў пра яе цацкі, аднак іх так многа, што усяго і не ўспомніш. Дастаткова сказаць, што калекцыя лялек у Яны была самая, напэўна, багатая ў горадзе. А колькі сукеначак, спадніачак і чаравічак было ў тых лялек! Такому гардэробу пазайздросціла б і англійская прынцэса. І меліся ў тых лялек домікі, ложачкі, калыскі… А ў некаторых і машыны.

Адным словам, для гульняў у Яны было ўсё. Апроч сяброўак. Не хацелі з ёй чамусьці гуляць іншыя дзеці. "Не перажывай: яны проста зайздросцяць тваім цацкам!", — супакойвала Яначку маці. А Яначка сама зайдросціла вясёлым гульням дзяцей, і гатова была развітацца з цацкамі, каб толькі мець сяброўак. Аднак дзяўчынка добра памятала словы бацькі, які сказаў аднойчы свайму сябру ў адказ на просьбу пазычыць машыну:

— Не магу даць: рэч дарагая — трэба берагчы!

І Яначка берагла свае дарагія рэчы ад рук чужых дзяцей.

Так і журылася б дзяўчынка сам-насам са сваімі цацкамі без сяброўак, каб не прыехаў аднойчы пагасціць бацька Яначкінай маці — дзед Васіль.

— Чаго гэта сумуе мая любая ўнучка цэлымі днямі ў кватэры? — пацікавіўся аднойчы дзед Васіль. — Няўжо бацькі не дазваляюць выйсці пагуляць на сонейку з іншымі дзецьмі?

— Дазваляюць, дзеда. — адказала любімая ўнучка. — Але не прымаюць мяне дзеці ў свае гульні. Так што і на вуліцы прыйшлося б гуляць адной. У кватэры, дзе мяне ніхто не бачыць, хоць не так крыўдна.

Паглядзеў дзед Васіль ласкава на Яначку, пакруціў вус, ды кажа:

— Ну, вось што. Хацеў я патрываць да твайго Дня Нараджэння, але раз такая справа, потым што-небудзь яшчэ прыдумаем. Ёсць у мяне для маёй унучкі чароўны падарунак. З ягонай магіяй цябе прымуць у любую кампанію. Чакай тут!

Схадзіў дзед у пакой, дзе спаў, і прынёс адтуль вялікую скрынку з цудоўным наборам цацачнага посуду. Тут было ўсё: чайны сервіз на шэсць персонаў з маленькімі чайнымі лыжачкамі; сталовыя, супавыя і закусачныя талеркі; сталовыя лыжкі і відэльцы. І ўсё такое прыгожанькае і зусім як сапраўднае! Асабліва Яначку пацешыў пузаценькі імбрычак. Ён нацягнуў беленькую шапку з пампонам, задраў уверх нос і надзьмуўся, ўпёршыся рукой у бок, нібы быў незадаволены, што яго патурбавалі, выняўшы са скрынкі.

— Я рад, што табе даспадобы! — узрадаваўся дзед Васіль, пабачыўшы як загарэліся вочы Яначкі. — Аднак, гэта не просты посуд: гэты посуд чароўны. Яго магія зробіць тваімі сябрамі тых, хто разам з табой пагуляе з ім. Аднак, дзейснай будзе тая магія толькі ў тым выпадку, калі ў тваім сэрцы будуць жыць шчырасць і шчодрасць. Добра запомні гэта!

— Запомню. — паабяцала дзяўчынка. — Вой, а як жа мне прымусіць дзяцей пагуляць разам са мной з гэтым посудам?

— Аб гэтым не турбуйся: будзь шчырай і шчодрай — астатняе зробіць магія. — усміхнуўся дзед.

І Яначка рушыла гуляць да дзяцей.

Трэба сказаць, што спачатку дзеці з недаверам успрынялі прапанову Яначкі пагуляць у дом з новым посудам:

— З табой нецікава: бо ты не даш дакрануцца нават да самай маленькай лыжачкі! Зноў скажаш: “Рэч дарагая — трэба берагчы!”

— Не скажу! — запярэчыла Яна. — Цяпер я шчырая і шчодрая.

І дзяўчынка стрымала слова. З абеда і да самай вячэры гуляла Яначка з новымі сяброўкамі і ў “дом”, і ў “дзіцячы садок”, і ў “госці”. І так весела і прыемна было гуляць з іншымі дзецьмі, што шчодрая і шчырая Яначка абяцала ім наступным разам прынесці для сумесных гульняў сваіх лялек.

Ці трэба казаць, што дамоў вярнуся Яначка шчаслівая як ніколі. І першага каго ўспомніла, так гэта дзеда Васіля:

— Дзеда, дзеда, памагла твая магія! Дзякуй табе! Навучы, калі ласка, і мяне так чарадзейнічаць!

— Няўжо ты сама яшчэ не зразумела сакрэт гэтай магіі? — здзівіўся дзед Васіль.

— Не! Як я магла здагадацца?! — адказала Яначка.

— Ну, ў такім выпадку слухай уважліва і запамінай, бо другі раз гэтым сакрэтам я дзяліцца не буду! — папярэдзіў дзед. —Яшчэ з сівых часоў маюцца ў свеце дзве крыніцы магічнай моцы. Адна завецца Любоў. Гэта яна стварыла Свет такім цудоўным-прыгожым, дружным і зладжаным. Яе сілай Свет і трымаецца. Магія якой

ты карысталася сёння бярэ свой выток у Любові. Посуд чароўны не сам па сабе: ён асвечаны сілай Любові праз шчырае і шчодрае сэрца. Магія Любові заўсёды зблiжае, мірыць людзей, робіць іх сябрамі. Толькі гэтая магія можа падарыць сапраўднае шчасце. Успомні сама якая ты сягоння прыбегла шчаслівая!

— А другая! Якая другая магія? — не цярпелася ведаць Яначцы.

— Другая магія — злая. Яна можа вабіць нейкімі выгодамі, аднак насамрэч заўсёды імкнецца пасварыць і разлучыць людзей, зрабіць іх самотнымі і няшчаснымі. Калі б яна была мацнейшая за магію Любові, то Свет даўно бы разваліўся і перастаў існаваць, бо сіла гэтай магіі ў злосці і нянавісці. Калі табе хочацца не паслухацца бацькоў, нашкодзіць, сказаць каму-небудзь штосьці злое — гэта верныя прыкметы таго, што цябе зачаравала злая магія.

— І як тады вызваліцца ад чар? — спужалася дзяўчынка.

— Праз магію Любові, зразумела! — патлумачыў дзед Васіль. — Трэба ўспомніць, што ты добрая дзяўчынка, пасяліць ў сваім сэрцы шчырасць, шчодрасць, дабразычлівасць, а тады сказаць нячутна ў розуме: “Творца ўсяго Свету — Любоў, дай мне сілу перамагчы зло!” І сама пабачыш, як у цябе паявіцца моц на добрыя ўчынкі і пачуцці.

Вось такі дзед-чарадзей ў Яначкі. Магчыма, ягоныя ўрокі чарадзейства і табе пойдуць на карысць.

# Лютаўскі Сумёт



Прысеў на шляху-дарозе між двух вёсак пан Сумёт-срэбны жывот. Раскінуў шырока сівыя бакі, выставіў на сонейка лысую патыліцу. Сядзіць-бурчыць вандроўцам замінае - далей не пускае, і сам на сябе нарадавацца не можа:

— Які ж я гожы- прыгожы.
Не тое, што некаторыя рожы.
Чысцютка-беленькі, самавіты,
Дыямантавым футрам абвіты.
Вунь валуны самотна валяюцца.
А са мной усе уважаюцца,
Бо без майго дазволу,
Не пракаціцца і колу.
Такі вось я важны чын —
Лепш сядзіце на пячы!

– Гэй, браце, ты чаго на самай дарозе разваліўся ды добрым людзям ехаць замінаеш? Ці чуў, вясна ўжо блізка: хутка тваёй улады канец! — прарыпелі побач Санкі палазамі і без аглядкі панесліся далей.

Пан Сумет-срэбны жывот быў так заняты сабой, што не заўважыў, адкуль аб'явіліся гэтыя нахабнікі. Ён ажно здрыгануўся ад нечаканасці і нават рассыпаў крыху сваіх дыямантаў-сняжынак. А пакуль думаў, што адказаць, зіма завеяла і сляды палазоў.

І па сёння сядзіць пан Сумет-срэбны жывот абурана на дарозе
бурчыць-злуецца:
Мне б зноў з санямі сустрэцца…

Як смелі парушыць парадак,
І праскочыць радам?!!

Нічога не цікавіць пана Сумёта, акрамя свайго гневу. Неўздагад яму, што паўднёвы ветрык ўжо прынёс ледзьве чутныя галасы птушак з далёкага выраю:

Спяшай-прыходзь, Вясна-маладзіца!
Ад сну зімовага дай абудзіцца,
Зрабі снягі ручаёвай вадзіцай –
Зямліцы дазволь ўдосталь напіцца;
Цяплу памажы па абшарах разліцца,
Каб у родныя гнёзды маглі мы сяліцца!

# Шпакоўня




[фота — KONDAKOFF.COM]

Магчыма табе даводзілася бываць у садзе. Не, ні ў дзіцячым садку, а ў смачным садзе. Там, дзе з дрэваў цягнуцца табе ў рукі наліўныя яблыкі, мядовыя грушы; румяняцца на сонейку вішні і загарае чарэшня.

Кажуць, самы прыгожы, дагледжаны і смачны сад на Беларусі мела сям'я добрых людзей, што жылі ў адным селішчы на Палессі. Гавораць, што нават у самыя скупыя неўрадлівыя гады ў тым садзе прыгажэлі такія сакавітыя ды салодкія яблыкі, якіх не знайсці ў іншых садах і ў лепшыя часы.

Падзівіцца на плады і ягады таго саду прыязджалі госці з усіх куткоў Беларусі, і нават з-за мяжы. А гаспадары — людзі гасцінныя: прымуць шчыра, накормяць смачна і павядуць сад глядзець, садоўніцкімі сакрэтамі дзяліцца і слухаць спевы шпакоў.

Трэба сказаць, што тыя шпакі былі выдатныя майстры па частцы вакалу: маглі пераймаць галасы дванаццаці відаў птушак. У іх рэпертуары былі песні дрозда-белабровіка, чачавіцы, жаўтушкі, пячураўкі, круцігалоўкі. Аздаблялі свае нумары яны пошчакамі кулёна, свістам пагоніча, ціўкатам вясковай ластаўкі, чуфыканнем цецярука, чмяканнем кучара крыжанкі, крыкам пусцельгі.

За такія канцэрты, ды й за дапамогу ў знішчэнні шкодных для саду казюркаў, не шкадавалі гаспадары для шпакоў ягадаў, і штогод паднаўлялі шпакоўню.

Аднак аднойчы, ніхто не можа ўспомніць з якой прычыны, пераехалі нашыя садоўнікі ў другое месца, а сваю хату і сад са шпакоўняй прадалі іншаму гаспадару.

— Не, гэтая шпакоўня не ўпісваецца ў ландшафтны дызайн, — сказаў новы гаспадар сада.

І калі сям’я салодкаспеўных шпакоў вярнулася наступнай вясной з выраю, то не знайшла сваёй хаткі на месцы. Аднак у селішчы хапала добрых дзяцей, і птушкі засялілі іншую шпакоўню, зробленую хлопчыкамі.

А сад з тых часоў перастаў быць такім дзіўным. Бо ўраджаю шкодзілі розныя казюркі, якіх раней з’ядалі шпакі. Ды і не было як паслухаць болей у тым садзе зачаравальных птушыных спеваў.

# Вершы

## Ранішняя лічылка

Адзін.
На луг світальны паглядзі.
Два.
Іскрыцца росамі трава.
Тры.
Збіваюць россып рос вятры.
Чатыры.
Вясёлы промень сеў на жвіры.
Пяць.
Воды ракі са сну бурчаць.
Шэсць.
Світанак цемру і ў долах есць.
Сем.
І я сняданак смачна ем.
Восем.
Запелі косы на пакосе.
Дзевяць.
Дзеці ў дзень без хмараў вераць.
Дзесяць.
Да ночы спіць дрымотнік-месяц.



## Вячэрняя лічылка

Дзесяць.
У прыщемках прачнуўся месяц.
Дзевяць.
Дзеці снам і казкам вераць.
Восем.
Затіш  ходзіць па пакосе.
Сем.
Павячэраў — больш не ем.
Шэсць.
Цемра дзень у долах есць.
Пяць.
Зоркі ў хвалях рэк дрыжаць.
Чатыры.
Халадок прысеў на жвіры.
Тры.
Люляюць стрэлкаліст вятры.
Два.
Пад коўдрай змроку спіць трава.
Адзін.
Сон, з казак вытканы, глядзі!



## “Умывайка”



Вада-вадзіца,
памажы памыцца!
Спачатку далоні.
Далонямі — скроні.
А потым — тварык,
каб ззяў, як ліхтарык.
І ясныя вочкі,
каб усё было бачна.
І салодкія вусны,
каб елася смачна.
І носік,
каб кветачкі водар давалі.
І вушкі,
каб голас матулі пазналі.
І шчочкі,
каб ірдзелі світаннем.
Дзякуй, вадзіца-вада! Да спаткання!

## “Лятайка”



«Ага-га! Агу-гу!
Бачце: я лятаць магу!
Вось, пад люстрай лямпавокай
пралятаю я высока.
Ну, а над сваёй калыскай
пралятаю нізка-нізка!
Над канапай палунаю.
І над крэслам палятаю.
Дэльтапланам, самалётам…
Можа, вырасту пілотам:
палячу хутчэй за мары;
палячу вышэй за хмары.
Гарады, пустэльні, горы.
акіянавы прасторы;
джунглі, прэрыі, тайгу
зверху аглядзець змагу!»
Лётчык наш не прызямліўся,
пакуль бацька не стаміўся:
«Адпачні, бо і пілотам
на зямлі бываць ахвота!».

## Дзяцінства

Дзяцінства помню, як учора:
флот папяровых караблёў
мы слалі да марскіх прастораў
па звонкіх хвалях раўчукоў.

З тых дзён не веру штормам гора.
Свой смутак верай загаіў,
што, ўрэшце рэшт, бягуць у мора
ўсіх добрых мараў ручаі!



**Нагорны А.Р.**, На хвалях дзяцінства. (Прабачце — аўтарэдактура). — Мінск, 2012.

*Кантакты аўтара:*
e-mail: onmounty@tut.by
літаратурны блог: http://nahorni.blogspot.com

*Малюнак вокладкі* — **Аляксандр Бельскі** (www.belsky.by)